**Гродна**
№18 (476),
1 кастрычніка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПАЎГАДЗІНЫ ДЛЯ МАРЫІ



*Паважаныя Чытачы, запрашаем Вас прыняць удзел у кастрычніцкай акцыі! Заахвочваем знайсці крышку часу ў дзень на Ружанец, каб пасродкам пацераў сабраць малітоўны букет для Валадаркі неба і зямлі.*

● працяг на с. 4

## НАСТАЎНІК – БОЛЬШ ЧЫМ ПРАФЕСІЯ, ГЭТА ПАКЛІКАННЕ

**5 кастрычніка прыпадае Сусветны дзень настаўніка. У прафесійнае свята заслужаныя работнікі асветы ўзнагароджваюцца ў знак падзякі за працу і самаадданасць у навучанні маладога пакалення. Па доўгу службы на педагогаў ускладзена вялікая адказнасць, бо менавіта яны з’яўляюцца прыкладам для дзяцей. Таму ад іх патрабуецца быць добрым узорам ва ўсіх адносінах. У гэты дзень мы таксама глыбей засяроджваемся над роляй настаўніка ў адукацыі і выхаванні. Усе згодна прыходзім да высновы, што гэта прафесія для кіруемых запалам людзей, якія перадаюць веды і каштоўнасці.**

● працяг на с. 5




**“Ружанец – моцная прылада, якая нясе спакой у нашыя сэрцы”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XXVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 21, 28–32**

Езус сказаў першасвятарам і старэйшынам народу: “Як вам здаецца? У аднаго чалавека былі два сыны. Прыйшоўшы да першага, ён сказаў: «Сыне, ідзі і працуй сёння ў вінаградніку». Але той адказаў: «Не хачу!». А пасля, апамятаўшыся, пайшоў. Тады ён падышоў да другога і сказаў тое самае. Той жа сказаў у адказ: «Ужо іду, спадару». І не пайшоў. Каторы з двух выканаў волю бацькі?”. Кажуць Яму: “Першы”. Тады Езус кажа ім: “Сапраўды кажу вам, што мытнікі і распусніцы наперадзе вас ідуць у Валадарства Божае. Бо прыйшоў да вас Ян шляхам справядлівасці, і вы не паверылі яму. А мытнікі і распусніцы паверылі яму. Вы ж, убачыўшы, не апамяталіся пасля, каб паверыць яму”.

### ВЯРНУЦЦА ДА БОГА НІКОЛІ НЕ ПОЗНА!

Часта словы значна менш важныя, чым дзеянне, акт навяртання і вера. Езус скіраваў такі зварот да першасвятароў і старэйшын, якія, сказаўшы Богу “так”, дапусцілі, што іх рэлігійнасць стала звычкай. Людзі ж, якія церпяць з-за грахоў і тужаць па чыстым сэрцы, бліжэй да Божага Валадарства, чым “царкоўныя руцінёры”, якія бачаць у Касцёле толькі механізм і, насамрэч, з’яўляюцца абыякавымі да веры. Як сцвярджае св. Ігнацый, “лепш быць католікам, хрысціянінам, не гаворачы аб гэтым, чым расказваць пра гэта, не будучы такім”.

Словы Езуса павінны схіліць да рэфлексіі і страсянуць кожнага. Стан духоўнай слепаты пагаршаюць адсутнасць пакоры і “манія нявіннасці”, у якой жывём і на якую хварэем. Мы пакідаем працэс навяртання таксама з-за страху перад сакрамантам споведзі, павярхоўным стаўленнем да яго. “Толькі той, хто верыць у Бога, верыць таксама ў прабачэнне. І хто верыць у прабачэнне, здольны прызнацца ў граху”, – адзначае папа на пенсіі Бенедыкт XVI. Не ўзбаймся ж вяртацца да Пана!

**XXVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 21, 33–43**

Езус сказаў першасвятарам і старэйшынам народа: “Паслухайце іншую прыпавесць: Быў адзін гаспадар дому, які пасадзіў вінаграднік, абнёс яго агароджаю, вычасаў у ім давіла, пабудаваў вежу і, аддаўшы яго вінаградарам, адышоў. Калі ж наблізіўся час збіраць ураджай, ён паслаў слугаў сваіх да вінаградараў, каб забраць плады свае. А вінаградары, схапіўшы слугаў ягоных, аднаго пабілі, другога забілі, а іншага закідалі камянямі. Ён зноў паслаў яшчэ больш слугаў, і з імі ўчынілі тое самае. Урэшце ён паслаў да іх свайго сына, кажучы: «Пасаромеюцца сына майго». Але вінаградары, убачыўшы сына ягонага, сказалі адзін аднаму: «Гэта спадкаемца. Хадземце, заб’ём яго і завалодаем спадчынай ягонай». І, схапіўшы яго, выкінулі з вінаградніку і забілі. Калі ж прыйдзе гаспадар вінаградніку, што зробіць ён з гэтымі вінаградарамі?”. Кажуць Яму: “Злодзеяў гэтых пакарае ліхою смерцю, а вінаграднік аддасць іншым вінаградарам, якія будуць аддаваць яму плады ў адпаведны час”. Езус кажа ім: “Няўжо ж вы ніколі не чыталі ў Пісаннях: Той камень, які адкінулі будаўнікі, стаўся галавою вугла; праз Пана гэта сталася і дзіўнае ў вачах нашых. Таму кажу вам, што адымецца ў вас Валадарства Божае і дадзена будзе народу, які прынясе плады яго”.

### БОЛЬШ БЫЦЬ, ЧЫМ МЕЦЬ

Вялікім бажком сучаснасці з’яўляецца хцівасць, і многія людзі пакланяюцца ёй. Мераюць шчасце валоданнем, думаючы, што за грошы можна атрымаць усё. Пастаяннае жаданне панавання прыводзіць да таго, што мы больш прагнем мець, чым быць.

Як належыць змагацца з хцівасцю? Калі хочам знішчыць яе ў сабе, не трэба спрабаваць замяняць яе іншымі рэчамі. Унутраную пустату можа запоўніць толькі Стварыцель. Аднак, мы павінны ўзброіцца цярплівасцю. Гэта будзе доўгі працэс, які патрабуе нястомнай малітвы і поўнага даверу да волі любячага Айца. Трэба разумець, што рэзультат варты ўсіх адмаўленняў, паколькі сэрца, якое не было запоўнена Богам, не можа ўбачыць сапраўднага жыцця.

*Кс. Юрый Бяганскі*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Пераканаймася ў магутнасці Ружанца

*Распачынаем кастрычнік, падчас якога асаблівым чынам ушаноўваем Марыю праз ружанцовую малітву. Яна часта спадарожнічае нам у цяжкія, поўныя роспачы хвіліны.*

Адразу варта прыгадаць словы св. Луцыі, візіянеркі з Фацімы: “Не існуе праблемы, якую б нельга было вырашыць пры дапамозе Ружанца”. Падчас гэтай малітвы не трэба баяцца давяраць Марыі свае радасці, клопаты і цярпенні. Наша любячая Маці заўсёды гатова прыйсці на дапамогу, але, каб зрабіць гэта, Ёй неабходны наш давер. Гэта падкрэсліў падчас адной з пілігрымак св. Ян Павел II: “Адгаворваючы Ружанец, мы размаўляем з Марыяй, з даверам даручаем Ёй усе нашы клопаты і смуткі, радасці і надзеі. Яна – радасная, балесная і хвалебная, што заўсёды побач з Сынам – адначасова прысутнічае сярод нашых штодзённых спраў”.

Многія Пантыфікі неаднаразова адзначалі, наколькі важная і каштоўная ружанцовая малітва. Леў XIII у адной з энцыклік напісаў, што Ружанец – “самая дасканалая форма малітвы”, таму што яна з’яўляецца “моцнай абаронай веры, а ў таямніцах, што становяцца прадметам засяроджання, указвае нам узнёслы ўзор дабрадзейнасцей”. Пій XI называў Ружанец “псалтыром Маці Божай”, “брэвіярыем Евангелля і хрысціянскага жыцця”, “містычным вянком” і “містычнай каронай”. Св. Пій XII падкрэсліваў: “Калі прагнеце супакою ў сваёй сям’і, адгаворвайце Ружанец”. А св. Ян XXIII так моцна цаніў гэтую малітву, што кожны дзень разважаў усе яе таямніцы.

Папскае навучанне паказвае не толькі значэнне Ружанца ў гісторыі Касцёла, але таксама адзначае, што ў кожную эпоху, пачынаючы з часоў, калі жыў св. Дамінік, вернікі рознымі спосабамі даследавалі гэтую малітву, робячы яе вядомай і любімай.

Сёння ўсё больш тых, хто хоча заўсёды мець пры сабе ружанец. Многія носяць яго ў выглядзе пярсцёнка ці бранзалета. Ужо існуюць ружанцы ў форме пластыкавага прамавугольніка, які нагадвае крэдытную картачку, каб зручна было насіць яго ў кашальку. Аднак нельга дапускаць, каб ружанец стаў выключна “набожным амулетам”, паколькі “гэтая плённая малітва, – пісаў бл. Павел VI, – не толькі вельмі эфектыўная для спынення зла і няшчасцяў ды для аддалення бедстваў, як выразна відаць з гісторыі Касцёла, але таксама рашуча ажыўляе хрысціянскае жыццё”.

Разважаючы адну з 20-ці ружанцовых таямніц, варта пастарацца знайсці сваё месца ў кожнай з іх, заўважыць пасланне, скіраванае менавіта да нас. Трэба таксама задаць сабе пытанне: ці падобна маё сэрца на Найсвяцейшае Сэрца Езуса і Беззаганнае Сэрца Марыі? Зрабіць рахунак сумлення, абудзіць жаль аб тым, што нам яшчэ так шмат не хапае. Менавіта тады Маці Божая ўлівае ў сэрца надзею, упэўніваючы, што з Ёю мы пераможам.

**Дарагія Чытачы!**

Стараймася штодзённа знаходзіць час на Ружанец і адгаворваць хаця б 1 дзясятак. Аднак трэба памятаць, што значна прыгажэйшым і больш плённым з’яўляецца разважанне кожнай таямніцы, бо тады, як напісаў св. Ян Павел II, “Ружанец вядзе нас да сузірання таямніц веры [...], ажыўляючы любоў хрысціян да Маці Божай, яшчэ выразней скіроўвае марыйную малітву да яе мэты, якой з’яўляецца праслаўленне Хрыста”.

На заканчэнне юбілейнага года давайце прымем глыбока ў сэрца абяцанне Найсвяцейшай Панны, дадзенае 100 гадоў таму ў Фаціме: “Штодзённа маліцеся Ружанец, каб здабыць спакой для свету і канец вайны!”. Давайце пераканаемся ў магутнасці марыйнай малітвы на ўласным вопыце і падзелімся гэтым адкрыццём з іншымі. Нахай Ружанец стане малітвай усіх у кожны час і ў любым месцы на зямлі!

**Да 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме 1917–2017**

# Што злучае Фаціму з Фаустынай Кавальскай?

***Фацімскае аб’яўленне і аб’яўленне Божай міласэрнасці маюць шмат супольных рыс. Прыгадваюць, што адзіным ратункам з’яўляецца рэанімацыя веруючага сэрца. Сутнасць абодвух аб’яўленняў – скіраваны да людзей заклік, каб паклапаціліся аб збаўленні сваім і цэлага свету. Бо чалавек, адварочваючыся ад Стварыцеля, набліжаецца да катастрофы, скіроўваючы самога сябе на асуджэнне.***

“Скажы збалеламу чалавецтву, няхай прытуліцца да Майго міласэрнага сэрца, а Я напоўню яго спакоем”, – гаворыць Езус с. Фаустыне. “Сэрцы Езуса і Марыі хочуць праз вас аказаць свету веліч міласэрнасці”, – кажа Анёл дзецям з Фацімы. У абодвух пасланнях бачым заклік, каб свет звярнуўся да Бога. Ратунак – у адкрыцці сэрца наноў. І фацімскае пасланне, і “Дзённік” с. Фаустыны – гэта зварот да людзей, каб у Сэрцы Езуса і Сэрцы Марыі адшукалі самы дасканалы ўзор і ў той жа час сілу да абавязковай перамены, да навяртання.

*Як пастушкі з Фацімы, так і св. Фаустына паходзілі з бедных сялянскіх сем’яў. Што праўда, святая з Польшчы падчас аб’яўленняў ужо не была дзіцём – належала да бяднейшай групы манахінь, якія займаліся фізічнай працай. Завіхалася на кухні, у садзе, у шпіталі, на праходной.*

Як пастушкі, так і манахіня мелі бачанне пекла. Св. Фаустына ў “Дзённіку” запісвае: “Сёння я была ў глыбінях пекла, заведзеная туды Анёлам”, – пасля чаго пералічвае, у чым заключаюцца пякельныя мукі. Усё апісанне заканчвае словамі: “Пішу аб гэтым згодна з Божым наказам, каб ніводная душа не сцвярджала, што пекла няма, альбо што ніхто там не быў і не ведае, як у ім. Я, сястра Фаустына, па Божым загадзе была ў бездані пекла для таго, каб расказваць душам і сведчыць, што пекла існуе”. Яе асабістым адказам на гэтае бачанне было павелічэнне стараннасці: “Калі я апамяталася, не магла супакоіцца ад спалоху, як страшна там пакутуюць душы. Таму яшчэ больш горача малюся аб навяртанні грэшнікаў, пастаянна прашу Божай міласэрнасці для іх”.

На старонках “Дзённіка” манахіня шматразова паўтарае, што прагне ратаваць канаючыя душы, якія знаходзяцца над безданню, бо не паядналіся з Усемагутным. Піша: “Ужо перад самай пагібеллю міласэрны Бог дае душы тое яснае ўнутранае імгненне, што, калі хоча, яна мае магчымасць вярнуцца да Бога”. І дадае: “Але няраз душы настолькі ўпартыя, што свядома выбіраюць пекла; робяць дарэмнымі ўсе малітвы, якія іншыя душы ўзносяць за іх да Пана, і нават усе Божыя намаганні”.

Фацімскія дзеці ўбачылі пекла 13 ліпеня 1917 года. З успамінаў: “Здавалася, што бляск пранікае праз зямлю, і мы ўбачылі нібы мора агню. У гэтым агні былі паглынуты дэманы і душы, як празрыстыя распаленыя да чырвані вуглі, чорныя ці карычневыя, падобныя да людзей, захопленыя пажарышчам, узнесеныя полымем, якое выпаўзае з іх саміх разам з клубамі дыму, што валяць ва ўсе бакі...”. Дзеці моцна спалохаліся. Але страх хутка змяніўся гарачым жаданнем ратаваць душы ад асуджэння. Пастушкі, як і с. Фаустына, прагнулі пакутаваць, прымаць цярпенні, у пэўным сэнсе браць на сябе кару за грахі іншых, каб ратаваць іх ад пекла.

Пасля таго, як Марыя паказала дзецям з Фацімы пекла, навучыла іх малітве, якую да сёння прамаўляем пасля кожнай таямніцы ружанца: “О, мой Езу, прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, прывядзі ўсе душы на неба і дапамажы асабліва тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць”. Гэта, па сутнасці, малітва аб Божай міласэрнасці. Яна з’яўляецца даверлівым далучэннем да жадання Стварыцеля, каб усе душы трапілі ў Неба.

Так на пачатку XX стагоддзя з Партугаліі і Польшчы – 2-юх супрацьлеглых старон Еўропы – плыло тое самае пасланне Божай міласэрнай любові. З аднаго боку Езус указваў на сваё Сэрца як крыніцу сакрамантаў, а з іншага – Марыя скіроўвала позірк на сваё Беззаганнае Сэрца як прыклад абсалютнага з’яднання з Богам, з Хрыстом.

*Кс. Юрый Марціновіч*



# КУДЫ ВЯДУЦЬ СЦЕЖКІ ПАМЯЦІ

КОЛЬКІ СЯБЕ ПАМЯТАЮ, ЗАЎСЁДЫ Ў ЖЫЦЦІ МНЕ СПАДАРОЖНІЧАЛІ ЎСПАМІНЫ ПРА ДЗЯДУЛЮ, РАСКАЗАНЫЯ МАМАЙ І БАБУЛЯЙ. ГІСТОРЫІ З ЧАСАМ СТАНАВІЛІСЯ ЎСЁ ЦІКАВЕЙШЫМІ І ПАЎНЕЙШЫМІ. І ВОСЬ НАДЫШОЎ ЧАС, КАЛІ Я ВЫРАШЫЛА ПАДЗЯЛІЦЦА ІМІ З БОЛЬШЫМ КОЛАМ ЛЮДЗЕЙ.

РАШЭННЕ БЫЛО ПРЫНЯТА, КАЛІ З'ЯВІЛАСЯ МАГЧЫМАСЦЬ ПАЕХАЦЬ У МЕДНАЕ (РАСІЯ), ДЗЕ РАЗАМ З ІНШЫМІ З ЛАГЕРА ВАЕННАПАЛОННЫХ У АСТАШКАВЕ СПАЧЫВАЕ МОЙ ДЗЯДУЛЯ УЛАДЗІСЛАЎ САКОВІЧ. ТАМ, КАЛЯ 200 КМ НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД АД МАСКВЫ, ЗНАХОДЗЯЦЦА ПОЛЬСКІЯ ВАЕННЫЯ МОГІЛКІ, ДЗЕ МЕСЦІЦЦА 25 МАСАВЫХ ПАХАВАННЯЎ. Я ПАЗІРАЛА НА ВЫРАЗАНЫЯ НА КАМЕНІ ІМЯ І ПРОЗВІШЧА ДЗЯДУЛІ І ДУМАЛА, КОЛЬКІ ЁН МУСІЎ ПЕРАЖЫЦЬ І ВЫЦЕРПЕЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ СПАЧЫЎ У ГЭТАЙ ЗЯМЛІ, ТАК ДАЛЁКА АД СВАЁЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ. ДУМАЛА ТАКСАМА ПРА ТОЕ, ЯК ШЧАСЛІВА ЁН ЖЫЎ ДА ПАЧАТКУ ВАЙНЫ РАЗАМ СА СВАЁЙ СЯМ'ЁЙ І ШТО ПЛАНАВАЎ...

ГЭТАЕ АПАВЯДАННЕ ПРА ДЗЯДУЛЮ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ПРОСТЫМ. А ІЛЮСТРАЦЫЯЙ ДА ЯГО НЯХАЙ СТАНУЦЬ ФРАГМЕНТЫ ВЕРША АЎТАРСТВА ДЗЯДУЛЕВАЙ ДАЧКІ, МАЁЙ МАМЫ БРАНІСЛАВЫ САКОВІЧ.

Дзядуля нарадзіўся ў 1899 годзе ў невялічкай вёсцы Углы ў тагачасным Васілішкаўскім павеце (сёння гэта Шчучынскі раён на Гродзеншчыне). Меў 4-ых братоў і 2 сястры.

У кожную нядзелю хадзіў з сям'ёй у касцёл. Выпісваў рэлігійныя часопісы і шмат чытаў. Вылучаўся зычлівасцю да людзей і шчырай верай у Бога. Пасля заканчэння школы вырашыў зрабіцца кавалём.

Стаў дасканалым спецыялістам у сваім рамясле, за што заслужыў павагу і пахвалу ад людзей. "Працавіты і міласэрны" – так пра яго казалі. Падчас хваробы брата дзядуля аддаваў таму палову грошай, якія сам зарабляў цяжкай працай пры горне.

Пабудуем домік, падрастуць дзеткі,
Каля дому будзем садзіць кветкі.
Мы самі маладыя, вырастуць дзеці,
Весела нам будзе жыць на гэтым свеце.

Дзядуля пастанавіў ажаніцца з маладзейшай на 10 гадоў жанчынай. Гэтае рашэнне было падмацавана пачуццямі, а таксама доседам ды адважным позіркам у будучыню. "Калі б хто глянуў у маё сэрца, то ведаў бы, як хачу мець сапраўдны дом і многа цяпла ў сям'і", – гаварыў дзядуля.

Трэба шмат цярплівасці і намагання, каб быў лад і парадак. Неабходна забяспечыць жыццё ў дастатку і жонцы, і патомкам. Як мужчына дзядуля павінен быў захоўваць справядлівасць падчас спрэчак, часам дакараць жонку і дзіця. Але стараўся рабіць гэта разумна і мудра павучаць жонку Казіміру.

Трэба прыгадаць, што жыццё маладой пары спачатку не было лёгкім, таму што на працягу 9-ці гадоў яны жылі разам з дзядулевымі бацькамі і братамі, якія таксама мелі свае сем'і.

Калі бацька з сям'ёю хату будавалі,
То было ім цяжка – дзяцей малых мелі.
А тата прыгаворваў: "Не сумуй, Казюта,
Што дзеці – драбнота!".

Каб паўстаў новы дом, трэба было самому павыкарчоўваць дрэвы і падрыхтаваць пляц пад будаўніцтва. З дапамогай сям'і і знаёмых дом нарэшце быў гатовы. Ранняй восенню 1936 года дзядуля з жонкай і ўжо 3-ма дзеткамі пераехалі ва ўласны дом. Менавіта там мая мама Браніслава, дарэчы, вельмі падобная да бацькі з выгляду і характарам, пазнавала свет.

Малую Броню і іншых дзяцей "татуля" навучаў граматыцы, чытанню, расказваў байкі, правіраў, як вывучылі вершы на памяць. Вечарамі, калі ўся сям'я збіралася ля стала, дзядуля спрабаваў планаваць будучыню сваіх дзяцей: "Ты, Бронечка, пойдзеш у кляштар, а ты, Маня, будзеш настаўніцай...". І мая мама гатова была стаць манахіняй, як хацеў "татуля". Аднак жыццё ўсё расставіла па месцах інакш...

А татачка кажа: "Не плачце, галубочкі,
На вайне я буду не больш за тры гадочкі.
Разам вы маліцеся Антонію святому,
Каб хутчэй вярнуўся я да вас, дадому".

У 1939 годзе Уладзіслаў Саковіч разам з тысячамі іншых мужчын стаў у шэрагах салдат, каб абараняць свабоду Айчыны і сям'і. Перад тым, як адправіцца на вайну, дзядуля раптам прыгадаў пэўны свой сон. Вось, нібы ён знаходзіцца ў закрытым пакоі і моліцца Богу. Нечакана адчыняюцца дзверы ў наступнае памяшканне, дзе стаіць Пан Езус у акружэнні мноства людзей, якія вымольваюць у Яго прабачэнне. Сын Чалавечы маўчыць, а людзі ўпрошваюць дзядулю заступіцца за іх. Ён звяртаецца да Хрыста з мальбой дараваць грахі гэтым сабраным. У маўчанні схіляючы галаву, Езус згаджаецца на гэта.

Ці быў гэты сон падставай, каб сказаць жонцы: "Я не вярнуся з вайны, а ты паклапоцішся пра дзяцей"? Якое ж страшнае гэта было прадчуванне! Перад тым, як пакінуць родны дом, дзядуля не спаў усю ноч, рыхтуючы гаспадарку да надыходзячай зімы. Раніцай даваў парады жонцы і дзецям, як пражыць без яго. Больш за ўсіх плакаў малодшы сын, а жонка з трывогай думала, як сама справіцца з 4-мі дзецьмі і з 5-ым малечай, што неўзабаве павінна нарадзіцца.

Што ж... Пайшоў на вайну. Сям'і засталося толькі чакаць і спадзявацца, што ён вернецца жывы.

Са змрочнай ваеннай далечыні дайшло толькі некалькі лістоў. У адным з іх дзядуля пісаў: "Пра мяне не турбуйцеся. Вы, дзеці, маліцеся. Міхаська няхай слухаецца Маню, Маня хай слухаецца Броню, а астатнія – дапамагаюць маме". З адрасу на канверце можна было даведацца, што пісьмы адправілі з горада Крывы Рог (Расія). Пазней след дзядулі знік.

Колькі слёз праліла мая бабуля, колькі начэй не спала, колькі лістоў потым пісала ў Чырвоны Крыж, каб хоць што-небудзь даведацца пра мужа. Усё дарэмна.

Чаму ж не вяртаешся, муж мой адзіны?
Хіба забілі цябе ў Катыні...

Дзіўныя метамарфозы лёсу. На пачатку 1960-х гадоў малодшы сын Уладзіслава паехаў на заробкі на ўсход Расіі. Выпадкова спаткаў там мужчыну, які спярша доўга да яго прыглядаўся, а потым запытаў: "Ты часам не Уладзіслаў Саковіч?". Мой дзядзька адказаў, што ён сын Уладзіслава. З апавядання незнаёмца вынікала, што той пазнаўся з дзядулем у лагеры ваеннапалонных. Мужчына расказваў, як Уладзіслаў збіраў вакол сябе людзей на малітву, дапамагаў тым, хто сумняваўся, стараўся захаваць сілы і веру ў тое, што дажыве да канца гэтай мукі і вернецца да сям'і. Не ўдалося. Разам з тысячамі іншых яго расстралялі ў няволі і пахавалі ў супольнай магіле.

*Я стаяла побач з гэтай магілай, а дождж змываў слёзы са шчок. Я не ведала дзядулю асабіста, але ён быў для мяне вельмі блізкі дзякуючы шматлікім апавяданням бабулі Казіміры і мамы. Быў, ёсць і застанецца ў маёй памяці. Таму мне хацелася б, каб і Вы даведаліся яго гісторыю. Дзядуля паўтарыў лёс тысяч людзей, што былі верныя Богу, Бацькаўшчыне і сям'і.*

*Вечны адпачынак дай ім, Пане...*

*Зоф'я Гук, Гродна*



*Надмагільная табліца Уладзіслава Саковіча ў мемарыяле "Меднае"*



*Звон польскай галгофы ў Медным*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Дзе б ты ні знаходзіўся – будуй! Калі апынуўся на зямлі – устань! Ніколі не заставайся на зямлі. Дазволь, каб табе дапамаглі падняцца. Калі сядзіш – выходзь у шлях! Калі сум цябе паралізуе – праганяй яго добрымі справамі. Калі адчуваеш сябе спустошаным ці дэмаралізаваным, прасі, каб Святы Дух змог зноўку запоўніць тваю пустату. Будуй мір сярод людзей і не слухай голасу тых, хто сее нянавісць і падзелы. Людзі, паколькі адрозніваюцца адзін ад аднаго, былі створаны, каб жыць разам. З супярэчнасцямі, цярпліва. Аднойчы ты ўбачыш, што кожны носіць у сабе часцінку праўды. Любі людзей. Любі кожнага з іх. Паважай шлях усіх, якім бы ён ні быў: прамым ці пакручастым, бо кожны мае сваю гісторыю. Кожны з нас можа распавесці яе. Кожнае дзіця, якое нараджаецца, – гэта абяцанне жыцця, што чарговы раз аказваецца мацнейшым за смерць. Кожная любоў, якая ўзнікае, – гэта сіла перамены, што імкнецца да шчасця.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 20.09.2017*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Мы ўсе добра ведаем, што сучаснаму чалавеку – часта занядбанаму духоўна, разгубленаму, нараз збунтаванаму, які, усё ж, нягледзячы ні на што шукае сэнс жыцця і ў глыбіні сэрца тужыць па сапраўдных, трывалых вартасцях – вельмі неабходны святары, і ён ставіць да іх усё вышэйшыя патрабаванні. Святар павінен быць сапраўдным пастырам свайго люду – святым, аўтэнтычным у тым, што абвяшчае і як жыве, чалавекам, які з верай і замілаваннем глядзіць на Езуса Хрыста, бацькоўскай любоўю кахае вернікаў і з'яўляецца для іх надзейным духоўным праваднікам у дарозе да Пана.*

*Каб святары заўтрашняга дня маглі справіцца з гэтымі заданнямі, трэба зрабіць усё, каб семінарыя, як чытаем у Апостальскай адгартацыі Яна Паўла II "Pastores dabo vobis", была сапраўднай "адукацыйнай супольнасцю, форма якой акрэслена яе спецыфічнай мэтай: спадарожнічаць будучым святарам у іх пакліканні, а значыць дапамога ў распазнанні паклікання і яго прыняцці, а таксама падрыхтоўка да сакраманту пасвячэння з характэрнымі для яго ласкамі і абавязкамі, дзякуючы якім святар становіцца падобным да Езуса Хрыста, Галавы і Пастыра, робіцца здольны і абавязаны да ўдзелу ў Яго збаўчай місіі ў Касцёле і ў свеце" (PDV, 61).*

*Фрагмент прамовы падчас інаўгурацыі новага 2017/2018 навучальнага года ў Гродзенскай ВДС, 23.09.2017*




◆ *Апублікаваны Апостальскі ліст папы Францішка "Summa famialiae cure" ("Больш клопату пра сям'ю") у форме motu proprio (па сваёй волі). Ім абвяшчаецца аб стварэнні Папскага багаслоўскага інстытута аб сужэнцах і сям'і, які будзе насіць імя св. Яна Паўла ІІ. Такім чынам Пантыфік рэарганізаваў ужо існуючы Інстытут даследаванняў шлюбу і сям'і пры Папскім Латэранскім універсітэце. Сфера дзейнасці закладзенай установы будзе пашырана, каб ахапіць як пастырскія задачы і царкоўныя місіі, так і гуманітарныя навукі і антрапалагічную культуру.*

◆ *Працягваецца беатыфікацыйны працэс Георга Ігната Спэнсэра, дзядзькі прынцэсы Дзіяны. Мужчына быў актыўным дзеячам экуменічнага дыялогу, нефармальным заступнікам англіканска-каталіцкага прымірэння. Нарадзіўся 22 снежня 1799 года ў сям'і арыстакрата. Пасля атрымання адукацыі паступіў у англіканскую семінарыю. Там прыняў пасвячэнні. Пазней адкрыў для сябе каталіцкую духоўнасць і пакінуў англіканскую Царкву. Вучыўся ў Рыме, затым быў пасвечаны на каталіцкага святара. Праз некаторы час уступіў у ордэн пасіяністаў. Маліўся за навяртанне Англіі. Памёр 1 кастрычніка 1864 года.*

◆ *Схоплены ісламістамі 1,5 гады таму індыйскі салезіянін кс. Том Ужуналіл – вызвалены. У сакавіку 2016 года група экстрэмістаў напала на дом састарэлых у Адэне (Емен), які ўтрымлівалі сёстры Місіянеркі Любові. Тэрарысты забілі 16 чалавек, у тым ліку 4 манахіні. За гэты час папа Францішак шматразова звяртаўся да вернікаў з заклікам аб малітве ў інтэнцыі салезіяніна. Апостальская Сталіца дзякуе ўсім, хто пасадзейнічаў вызваленню святара. Асаблівую ўдзячнасць Ватыкан склаў султану Амана і кампетэнтным уладам султаната.*

◆ *У Неапалі (Італія) паўтарыўся т. зв. цуд св. Янурыя, біскупа і мучаніка. Ён заключаецца ў растварэнні засохлай крыві, якую захоўваюць у ампулках. Цуд адбываецца 3 разы на год: ва ўспамін пакутніцкай смерці св. Януарыя 19 верасня, а таксама ў першую нядзелю мая і 16 снежня. Абвяшчаючы, што кроў стала вадкай, кардынал Крэшэнцыа Сэпэ падзякаваў Богу за тое, што "яшчэ раз аказаў сваю дабрыню". У снежні мінулага года цуд не адбыўся, што некаторыя інтэрпрэтавалі як знак надыходзячага няшчасця.*

◆ *У Польшчы выйшла ў абарот калекцыйная манета "100-годдзе Фацімскіх аб'яўленняў". На аверсе адлюстравана выява 3-ох пастушкоў-візіянераў, якім аб'явілася Марыя. На рэверсе змешчана карона, якой увенчана скульптура Маці Божай у партугальскім санктуарыі, і лілея як сімвал чысціні і нявіннасці Найсвяцейшай Панны. Манету наміналам 10 злотых стварыла мастачка Уршуля Валежак. Грашовы знак выпушчаны накладам 25 тысяч штук.*

*credo.pro; pch24.pl; deon.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Паўгадзіны для Марыі

*У гонар Каралевы Ружанца названа шмат каталіцкіх святынь у Беларусі, у тым ліку і ў Гродзенскай дыяцэзіі: парафіі пад тытулам Маці Божай Ружанцовай існуюць у Лабне (Сапоцкінскі дэканат), Песках (Мастоўскі дэканат), Солах (Смаргонскі дэканат) і Радуні (Радунскі дэканат). У свята Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай (7 кастрычніка) мясцовыя вернікі адзначаюць парафіяльны адпуст.*



● *працяг са с. 1*

**Чаму не хочацца адгаворваць Ружанец?**

Многія людзі, не будзем утойваць, без энтузіязму паглядзяць на гэтую ідэю, тлумачачы сваю пазіцыю тым, што сёння і вольнай хвіліны не маюць. Каму цяжка адшукаць у распарадку дня паўгадзіны на Ружанец (або і менш – хоць на 1 дэкаду), прапануем не выдзяляць час на яго спецыяльна. Гэта як? Можна маліцца падчас прыгатавання сняданку або па дарозе на працу. Той самы "неспецыяльны" час з'яўляецца, напрыклад, у чарзе да касы ў краме ці на прыём да ўрача. Пры жаданні можна замяніць музыку ў навушніках ці радыёхвалю ў аўтамабілі на запіс ружанцовай малітвы. Такі падыход вучыць адчуваць час, заўважаць, калі той праходзіць марна ці менш эфектыўна, каб пасля выкарыстоўваць яго з карысцю.

Шмат тых, хто спасылаецца на сваю безуважлівасць падчас адмаўлення Ружанца: не атрымліваецца засяродзіцца, а таму лепш наогул не чытаць малітвы, чым рабіць гэта фармальна. Св. Альфонс Лігуоры ў "Трактаце аб малітве" пісаў, што такая з'ява можа ўзнікаць як раз таму, што ружанцовая малітва вельмі дакучае д'яблу. Але гэта не падстава, каб адмаўляцца ад высакароднай ідэі! Уся справа ў тым, што трэба пастарацца і прыкласці намаганні, каб не падарыць Найсвяцейшай Маці млявыя, непрыгожыя "ружы". Дарэчы, такое рашэнне робіць букет яшчэ больш каштоўным. Вельмі важна перад пачаткам малітвы прасіць неабходных дароў і ласк у Найвышэйшага: праз парыў сэрца розум можа быць узняты Святым Духам. Варта ўсведамляць, што ненаўмысная страта засяроджанасці (і калі з гэтай з'явай вядзецца барацьба), не знішчае духоўнага плёну малітвы.

**Як моляцца Ружанцам**

З даўніх часоў вядомы шматлікія спосабы адгаворвання Ружанца. Людзі моляцца ў розных інтэнцыях, індывідуальна і супольна, гучна і ў цішыні, рэгулярна і ў надзвычайных сітуацыях.

З XV ст. у коле вернікаў арганізоўваюцца Ружанцовыя брацтвы, Вечны Ружанец. Ад XIX ст. у Касцёле распаўсюджаны рух Жывога Ружанца. Сёння, напэўна, у кожнай парафіі існуюць прадстаўнікі гэтага таварыства. Ахвочыя вернікі штодня моляцца дэкадай Ружанца пэўнай таямніцы. У выніку супольнасць з 20-ці чалавек поўнасцю адгаворвае марыйную малітву, ахвяруючы яе ў вызначанай інтэнцыі. Існуюць "ружы" мужчынскія, жаночыя, маці, бацькаў, моладзі, сужэнстваў, хворых і церпячых і інш.

Ужо на працягу 70-ці гадоў існуе малітоўная супольнасць "Ружанец дарогі пакаяння і малітвы аб супакоі ў свеце". На сёння яна налічвае больш за 2 мільёны чалавек у 105-ці краінах свету.

Таксама праводзяцца шматлікія акцыі ружанцовай малітвы. Вернікі, ведаючы пра яе моц і сілу, выходзяць у публічныя месцы з ружанцамі, каб памаліцца, напрыклад, супраць легалізацыі абортных кампаній, за навяртанне сваёй краіны і тым самым звярнуць увагу грамадства на пэўныя праблемы сучаснасці. Ніводная просьба не застаецца нявыслуханай у Бога. А калі яе яшчэ і ахвяраваць на алтар праз рукі Марыі, вынікі стануць відавочнымі неўзабаве.

**Маліся, як зручна**

Сёння існуе шмат форм ружанца, на якім можна адгаворваць марыйную малітву. Класічны ружанец складаецца з 59-ці злучаных паміж сабой пацерак і крыжа. Яны – за выключэннем 5-ці – утвараюць акружнасць. Існуюць таксама іншыя, менш распаўсюджаныя разнавіднасці.

Напрыклад, ірландскі ружанец. Ён уяўляе сабой толькі 1 дэкаду пацерак, не замкнутых у кальцо. З аднаго боку ніткі прымацоўваецца крыж, а з другога – кальцо. Па меры адлічвання таямніцы ружанцовай малітвы яно надзяваецца на наступны з 5-ці пальцаў, і пералік пацерак вядзецца нанова. Дадзены від ружанца цалкам хаваецца ў далоні. Менавіта па такой прычыне ён і быў прыдуманы падчас ганенняў на католікаў у Англіі і Ірландыі ў XVI–XVIII стст. З-за кампактнай формы рэлігійны атрыбут мог выкарыстоўвацца вернікамі патаемна.

Вялікую папулярнасць у католікаў набыў баскскі пярсцёнак-ружанец. На ім размешчаны 10 выступаў-зерняў, якія намацваюцца вялікім пальцам, і патоўшчаны крыж. Незвычайная для ружанца форма, як і ў Ірландыі, выпрацавалася ва ўмовах ганенняў на каталіцызм на поўначы Іспаніі і поўдні Францыі. Пярсцёнкавы ружанец таксама называюць "салдацкім", так як раней класічны ружанец было немэтазгодна браць у ваенны паход, а вось у форме пярсцёнка – зручна, ды і сапсаваць рэлігійны атрыбут значна складаней.

Падобны пярсцёнак носіцца, як правіла, на ўказальным пальцы правай рукі. Пры выкарыстоўванні часцей за ўсё змяшчаецца на верхнюю фалангу пальца для забеспячэння свабоднага кручэння. Таксама сустракаюцца пярсцёнкі-ружанцы, складзеныя з 2-юх частак: уласна пярсцёнка і рухомай шыны з адзнакамі і крыжом. Удасканаленая канструкцыя больш прыстасаваная да ўжывання: не патрабуе зняцця з ніжняй фалангі пальца пры адгаворванні малітвы.

Сёння адна з найбольш распаўсюджаных форм ружанцаў – бранзалет. Часцей за ўсё 1 дэкада пацерак злучана ў акружнасць. Ёсць і такія, што аплятаюць кісць некалькі разоў. Абавязковы элемент – крыж ці медальён.

Ружанцы вырабляюць з разнастайных матэрыялаў: каменю, дрэва, пластмасы і г. д. У ваенны час людзі рабілі пацеркі нават з найкаштоўнейшага – мякішу хлеба. Зараз, калі пад рукой няма ніякага атрыбута, што нагадвае ружанец, вернік моліцца літаральна на пальцах. І гэта не робіць малітву непаўнавартаснай. Першачаргова – сама малітва, а ружанец – толькі дапаможны элемент.

*Ці Вы гатовы ахвяраваць Найсвяцейшай Панне свой час? Адводзячы ў кастрычніку паўгадзіны для Маці Божай, атрымаем у выніку цэлы дзень у месяцы, засяроджаны на малітве. Такі шыкоўны букет, згадзіцеся, не сорамна падарыць Марыі, якая ўвесь час заступаецца за чалавека перад Богам. Адметную прыгажосць яму абавязкова нададуць Вашы "ружы" цярплівасці, самаадданасці і даверу.*

*Ангеліна Пакачайла*



Ружанец-бранзалет



Ірландскі ружанец



Баскскі ружанец-пярсцёнак

**10 матывацый для таго, каб узяць у рукі ружанец:**



1. Грэшнікі будуць прабачаны.
2. Спрагненыя душы – напоены.
3. Вязні знойдуць свае кайданы разбітымі.
4. Тыя, хто плачуць, адкрыюць для сябе шчасце.
5. Спакушаемыя здабудуць супакой.
6. Бедныя знойдуць дапамогу.
7. Вернікі перажывуць перамены.
8. Невукі будуць навучаны.
9. Жывыя даведаюцца, як перааддолець гонар.
10. Пакуты памерлых будуць палегчаны прашэннямі.

# НАСТАЎНІК – БОЛЬШ ЧЫМ ПРАФЕСІЯ, ГЭТА ПАКЛІКАННЕ



Сапраўдны настаўнік – гэта не толькі чалавек, які вучыць дзяцей. Ён і выхавацель, і мудры псіхолаг

● працяг са с. 1

### ЖЫЦЦЁВАЕ ЗАХАПЛЕННЕ

Часта задумваемся, якім павінен быць настаўнік. Адказы бацькоў, дырэкцыі школы і вучняў на гэтае пытанне будуць адрознівацца.

11-класнік Андрэй Бакуноў, вучань адной з гродзенскіх школ, падкрэслівае, што ў яго разуменні ідэальны настаўнік з'яўляецца не толькі выкладчыкам свайго прадмета, але, найперш, сябрам, да якога можна звярнуцца са сваімі праблемамі, нават асабістымі. *"У настаўніках, якія працуюць у маёй школе, цаню асабліва тое, што яны шукаюць індывідуальны падыход да кожнага вучня і прыкладваюць усе намаганні, каб мы сапраўды любілі іх прадметы, былі актыўныя на ўроках, не сядзелі ў чаканні званка"*, – гаворыць Андрэй.



Дзень настаўніка – выдатная магчымасць падзякаваць любімым педагогам за іх адданую працу

Тое, што настаўнік – гэта не толькі прафесійная праца, але і наладжванне адносін з вучнямі, якое патрабуе поўнай уцягнутасці, пацвярджае настаўніца матэматыкі Валянціна Коўтун. *"У школе нельга проста выконваць праграму, гнаць наперад згодна з планам. Трэба браць пад увагу эмацыйныя і інтэлектуальныя патрэбы вучняў, ствараць прыязную атмасферу падчас заняткаў. Калі маеш да дзяцей цёплыя, сардэчныя адносіны, лягчэй дасягнуць жаданага выніку. Толькі той, хто ставіцца да сваёй працы не проста як да прафесіі, але і як да жыццёвага захаплення, здабудзе прызнанне і аўтарытэт сярод вучняў"*, – адзначае педагог. І падкрэслівае, што вучні любяць настаўнікаў у першую чаргу не за тое, чаму яны іх навучылі, але за тое, якія яны людзі.

### ПАЗІЦЫЯ ЛЮБОВІ

Асабліва важнымі каштоўнасцямі ў прафесіі настаўніка з'яўляюцца прафесіяналізм, патрыятызм, справядлівасць, адказнасць і праўдзівасць. *"Настаўнік добры, чыні праўду ў любові"*, – гаварыў кардынал Стэфан Вышынскі. Гэтыя словы падкрэсліваюць вялікую ролю ўвагі і клопату ў штодзённай карпатлівай дыдактычнай і педагагічнай працы.

У старажытнасці настаўніка называлі майстрам. Яго задачай было выхоўванне ў вучнях асноўных чалавечых вартасцей: дабрыні, праўды і прыгажосці. *"Мы ўвесь час павінны даваць і сеяць, не чакаючы ўдзячнасці*, – падкрэслівае настаўніца гісторыі Яўгенія Богуш. – *Сённяшняму падрастаючаму пакаленню патрэбен шляхетны, спакойны, спагадлівы педагог, які мае адкрытае сэрца і ўсведамляе, што выхаванне – гэта справа любові, якой сучасная моладзь патрабуе больш чым калі"*.

### ПАКЛІКАННЕ ДА НАСТАЎНІЦТВА – ВЯЛІКАЯ АДКАЗНАСЦЬ

Папа Францішак падчас адной з аўдыенцый адзначыў, што прафесія настаўніка – прыгожая, таму што дазваляе педагогам убачыць, як дзень за днём развіваюцца асобы, даручаныя іх апецы. Гэта трохі падобна на бацькоўства: па меншай меры, у духоўным сэнсе.

Святы Айцец акрэсліў сябе як іх калегу, паколькі таксама, як узгадаў, быў настаўнікам і да сёння захаваў прыемныя ўспаміны аб працы ў школе. *"У асобе педагога вучні хочуць бачыць праведніка, ад якога чакаюць арыенціраў, адказаў і, у першую чаргу, добрых пытанняў*, – адзначыў Папа. – *У школе бясспрэчна важным з'яўляецца навучанне – кампетэнтнае і на высокім узроўні. Аднак вялікае значэнне маюць таксама міжасобасныя адносіны, якія з нашага боку павінны мець пастаць адкрытасці і зычлівасці адносна ўсіх без выключэння. Акрамя таго, у абавязкі настаўніка, а тым больш настаўніка хрысціянскага, уваходзіць акружэнне мацнейшай любоўю складанейшых, слабейшых, пакрыўджаных вучняў. Езус сказаў бы: «Калі вы любіце толькі ўважлівых, добра выхаваных, якую заслугу вы будзеце мець?». Зразумела, кожны настаўнік добра сябе адчувае сярод такіх вучняў. Але ёсць і тыя, з кім мы губляем цярплівасць. І іх мы павінны любіць больш. У сучасным дэзарыентаваным грамадстве школа мусіць быць станоўчай кропкай адліку. Аднак для гэтага патрэбны настаўнікі, якія могуць надаць сэнс навучанню, не паніжаючы яго да перадачы пэўных уменняў. Яны павінны быць надзейнымі і даваць сведчанне аб чалавечнасці, навучаць вартасцям і добрым традыцыям"*.

*Кінга Красіцкая*



**С. Наталля Дрэма SAC**

*Заўсёды з прыемнасцю ўзгадваю сваю настаўніцу фізікі Чаславу Войшніс. Гэта самы патрабавальны педагог у гісторыі школы. Але яе патрабаванні нельга лічыць беспадстаўнымі, бо ўрокі заўсёды праводзіла вельмі цікава і зразумела растлумачвала свой нялёгкі прадмет. Успамінаю спадарыню Чаславу з пашанай, таму што яна была і надалей з'яўляецца справядлівым настаўнікам. Ніколі нікога не прыніжала, цікавілася асабістымі справамі сваіх вучняў. На ўроках заахвочвала думаць і адкрыта выражаць свае эмоцыі. Я цаню спадарыню Чаславу таксама як педагога. Сама вучу дзяцей і разумею, як цяжка знайсці падыход да кожнага. Узгадваю яе стаўленне да цяжкіх вучняў, якія былі са мной у класе. Падчас сустрэч з моладдзю (якую яна цяпер вучыць фізіцы) ва ўсіх "школьных" тэмах яна надалей застаецца бясспрэчным аўтарытэтам. Настаўніцу надалей любяць і шануюць. Моладзь лічыць, што вывучаць фізіку ў спадарыні Чаславы – гэта "добрая інвестыцыя", асабліва для тых, хто сапраўды хоча ведаць гэты прадмет. Спадарыня Часлава з'яўляецца чалавекам глыбокай веры і сведчыць аб сваёй прыналежнасці да Хрыста ў асяроддзі дзяцей і моладзі.*



**Кс. Дзяніс Бразінскі**

*Не магу сказаць, што быў старанным вучнем у школе. Часта не заўважаў, як шмат робяць настаўнікі, каб растлумачыць нам тую ці іншую тэму. Толькі цяпер, калі сам вяду заняткі катэхезы для дзяцей, разумею, што быць настаўнікам – гэта асаблівае пакліканне, дзе ёсць свая радасць, але таксама і крыж. Мне пашанцавала, паколькі ў школе я меў дачыненне з педагогамі, сапраўды пакліканымі Богам. Найбольш мне запомнілася першая настаўніца – Тэрэса Кульш. Яна мела вельмі чулае і адкрытае сэрца да кожнага дзіцяці, таму ўсе мае аднакласнікі лічылі настаўніцу другой матуляй. Ведаю, што сёння яна вельмі ганарыцца тым, што ў свой час змагла паспрыяць фармацыі будучага святара.*



**С. Агнешка Рамашко CSFN**

*Я вучылася ў СШ №14 г. Ліды. Памятаю, як настаўніца беларускай мовы Яўгенія Пятрашка прапанавала нам падрыхтаваць сачыненне на тэму "Мая будучая прафесія". Ужо тады я пісала пра манаскае жыццё, пра тое, што хачу служыць Богу і дапамагаць людзям. Потым сустрэла сваю настаўніцу ў касцёле і была вельмі ўзрадавана тым, што яна не толькі добры педагог, але таксама як і я – веруючая асоба. Заўсёды была ў захапленні ад таго, як настаўніца аддана працавала і старалася данесці да кожнага з нас веды. Яшчэ бачыла, як у касцёле яна шчыра малілася, прымала св. сакраманты, а праз сваё з'яднанне з Панам атуляла любоўю, клапоцячыся пра кожнага вучня. Дзякую Богу за прыклад усіх настаўнікаў і малюся, каб Усявышні аддзячыў ім за паслугу.*




Catholic.by

**Папа Францішак сыграў у фільме самага сябе**

**У Ватыкане прайшла прэзентацыя фільма пад назвай "Beyond the Sun" ("За межамі сонца") з удзелам Пантыфіка.**

У экранізаванай гісторыі апавядаецца пра 5-ых дзяцей, якія рыхтуюцца да Першай св. Камуніі і хочуць даведацца, як можна пазнаць Езуса. Пасля розных прыгод яны трапляюць у Ватыкан, дзе папа Францішак ім тлумачыць, кажучы: "Пазнаеце Пана, чытаючы Евангелле, вывучаючы Катэхізіс і размаўляючы з Ім".

У кінатэатры фільм трапіць ва ўрачыстасць Божага Нараджэння. Прыбытак ад пракату будзе прызначаны на дзейнасць 2-юх аргенцінскіх дабрачынных арганізацый, якія дапамагаюць дзецям і моладзі ў складаных жыццёвых сітуацыях.




**Люксембург "выкінуў" рэлігію са школы**

**Яе заменіць навучанне каштоўнасці згоднага суіснавання.**

У краіне доўгі час была традыцыя навучання рэлігіі ў школах. Разам з тым, пры касцёлах праводзілася катэхеза для падрыхтоўкі да Першай св. Камуніі і канфірмацыі. Цяпер духоўнай адукацыяй павінны будуць займацца выключна парафіі. Гэта дастаткова складана, паколькі іх колькасць за апошні час радыкальна паменшылася з 280-ці да 33-ох.




**"Ружанец да межаў" у аэрапортах**

**У свята Маці Божай Ружанцовай уся Польшча ўздоўж межаў будзе аточана ружанцовай малітвай. Да праекта далучыліся таксама аэрапорт ім. Шапэна ў Варшаве, аэрапорт Познань-Лавіца і міжнародны аэрапорт Катавіцы-Пыжавіцы.**

Гэта будзе закрытая падзея, даступная толькі для працаўнікоў аэрапортаў і падарожнічаючых пасажыраў, якія ў гэты дзень будуць карыстацца аэравакзаламі. Малітва пройдзе ў капліцах на чале з іх капеланамі.

Акцыя з'яўляецца адказам на просьбу Маці Божай аб штодзённым адгаворванні Ружанца, якую Яна выразіла 140 гадоў таму ў польскім Гетшвалдзе і праз 40 гадоў у партугальскай Фаціме. У абодвух выпадках як ратунак для свету Марыя ўказала пакаянне і ружанцовую малітву.

*Кінга Красіцкая*




### Як Касцёл ставіцца да самагубцаў? Што адбываецца з іх душамі пасля смерці?

*Некалі ў гісторыі існавала практыка пахавання самагубцаў па-за хрысціянскімі могілкамі. Часам падобнае стаўленне да чалавека, які пазбавіў сябе жыцця, можна спаткаць і ў некаторых сучасных парафіях. Ці з'яўляецца такі падыход апраўданым?*

*На працягу стагоддзяў Касцёл прытрымліваўся меркавання, што самагубцы нявартыя адпаведнага хрысціянскага пахавання. Перш за ўсё, гэта тлумачылася тым, што чалавек не з'яўляецца ні аўтарам, ні гаспадаром свайго жыцця, таму не мае права і адбіраць яго ў сябе. Гэтая фундаментальная ісціна вынікае з праўды, што чалавек з'яўляецца стварэннем, а Творцам, сапраўдным Валадаром жыцця і смерці – Бог.*

*З упэўненасцю можна сказаць, што сёння Касцёл у значнай меры адышоў ад даўняй практыкі асуджэння самагубцаў. Такое стаўленне з'яўляецца неэтычным і амаральным. Зрабіць падобную выснову можна хаця б на аснове таго, што гаворыць адносна гэтай тэмы медыцына, у тым ліку і псіхалогія: "У большай ступені самагубствы звязаны з псіхічнымі засмучэннямі. Часцей за ўсё суіцыд здзяйсняюць асобы, якія пакутуюць ад дэпрэсіі, шызафрэніі і алкагалізму. Часам само грамадства стварае ўмовы, якія спрыяюць узнікненню з'явы самагубства. Вылучаюць 3 прычыны здзяйснення суіцыду: супраць грамадства (эгаістычнае самагубства), дзеля грамадства (альтруістычнае самагубства) і самагубства, якое здзяйсняюць у моманты крызісу (самагубства анамічнае)" (Слоўнік псіхалогіі, Артур Рэбер. Варшава, 2008).*

*З вышэй прыведзенай інфармацыі вынікае, што часта суіцыд мае месца ў выпадках, калі чалавек знаходзіцца не ў поўнай свядомасці, і нават робіць гэта не на добраахвотнай аснове. У такіх сітуацыях адсутнічае наяўнасць цяжкага граху. Касцёл жа на тэму пахавання самагубцаў сцвярджае, што асобы, якія перад смерцю выказвалі прыхільнасць да веры, маюць права на каталіцкае пахаванне, якое павінна цэлебравацца без усялякіх змен у літургічнай цырымоніі.*

*Кодэкс кананічнага права ўзгадвае толькі 3 групы асоб, якіх нельга хаваць па-каталіцку:*

- *трываючых у ерасі, адступнікаў ад веры і схізматыкаў;*
- *тых, хто выбраў спаленне ўласнага цела па прычынах, неадпаведных хрысціянскай веры;*
- *іншых яўных грэшнікаў, каталіцкае пахаванне якіх будзе публічным выклікам для вернікаў.*

*Згодна навучанню Касцёла, самагубцы таксама маюць шанс на збаўленне. Таму вернікі не павінны асуджаць, але маліцца ў інтэнцыі збаўлення чалавека, які паквапіўся на сваё жыццё.*

*Кс. Максім Бачарнікаў*
***Паводле grodnensis.by***



# Дзіцяці далі мянушку: як навучыць яго правільна рэагаваць?

**Дзеці вельмі часта прыдумляюць адзін аднаму мянушкі. Як правіла, гэтая з'ява праяўляецца пасля 3-ох гадоў, становіцца больш масавай ва ўзросце каля 5-ці гадоў і дасягае асаблівай вынаходлівасці ў школьныя гады. Нярэдка крыўдная мянушка становіцца для дзіцяці сапраўдным кашмарам. А бывае і так, што ўжо дарослыя людзі на сустрэчы выпускнікоў з замілаваннем узгадваюць, як некалі дражнілі адзін аднаго. Як жа разабрацца, ці нясе ў сабе мянушка вербальную агрэсію, ці не? Як бацькам навучыць дзіця правільна адказваць на непрыемныя адрасныя звароты?**

## НАЙПЕРШ ТРЭБА ЎЦЯМІЦЬ, ЗА ШТО ДАЮЦЬ МЯНУШКІ.

***Імя і прозвішча***

Самы лёгкі шлях, па якім дзеці ідуць, каб прыдумаць мянушку, – гэта пераробка імя або прозвішча. Так, напрыклад, можна быць упэўненым, што калі ў хлопчыка прозвішча Круглікаў, то ён, хутчэй за ўсё, стане Круглым або Кругляшом, як у свой час яго тата, дзядзька і ўсё Круглікавы-старэйшыя.

**Як рэагаваць?** Калі мянушка, дадзеная па гэтым прынцыпе, не нясе ў сабе адкрыта зневажальнага адцення, растлумачце дзіцяці, што на яе не варта звяртаць увагі. Можна нават разам пасмяяцца з таго, наколькі вы падобныя, што і дражняць вас аднолькава.

***Рост, вага ды іншыя знешнія адрозненні***

Дзеці не любяць тых, хто вылучаецца з агульнага шэрагу. Гном, Бамбіза (Дылда) або Жыртрэст знойдуцца ў любым дзіцячым калектыве. Такія мянушкі далёка не бяскрыўдныя і здольныя прышчапіць дзіцяці ўстойлівы комплекс непаўнавартаснасці.

**Як рэагаваць?** Перш за ўсё, трэба паклапаціцца аб павышэнні самаацэнкі свайго дзіцяці. У той жа час крыўдная мянушка можа стаць для бацькоў і сігналам да дзеянняў: калі, да прыкладу, дзіцяці не даюць праходу з-за залішняй паўнаты, варта заняцца яго харчаваннем, наведаць дыетолага ці павысіць фізічныя нагрузкі.

***Характар і паводзіны***

Такія мянушкі як Зубрыла, Плакса-вакса, Шасцёрка – даволі трывожны званочак. Яны азначаюць, што дзіця не навучылася будаваць адносіны з аднагодкамі.

**Як рэагаваць?** Дапамагчы дзіцяці разабрацца з яго праблемамі, і ні ў якім разе не пускаць справу на самацёк. Калі вы самі не спраўляецеся з праблемай, звярніцеся за дапамогай да дзіцячага псіхолага.

*У школьным узросце за з'яўленнем мянушак, як правіла, стаіць феномен іерархічных узаемаадносін у калектыве, спосаб самасцвярджэння дзіцяці або няўменне па-іншаму выказаць свае словы і пачуцці. Прычынай цкавання можа стаць усё што заўгодна. У некаторых выпадках гэта будзе жаданне паказаць сваю перавагу, а ў іншых – зайздрасць.*

## СТРАТЭГІІ ПАВОДЗІН ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, ЯКІХ ДРАЖНЯЦЬ:

***- Абараняць сябе***

Навучыце дзіця ўпэўнена паводзіць сябе з крыўдзіцелем: высока трымаць галаву, стаяць прама і глядзець яму ў вочы. Парайце спыняць непрыстойныя паводзіны ў адносінах да сябе цвёрдым і спакойным голасам: "Ты дражніш мяне. Перастань, калі ласка" ці проста "Хопіць".

***- Карыстацца формулай "Я хачу"***

Многія псіхолагі прапануюць навучыць дзіця звяртацца да крыўдзіцеля, пачынаючы са слоў "Я хачу", і далей цвёрда прагаворваць, чаго іменна: "Я хачу, каб ты пакінуў мяне ў спакоі" або "Я хачу, каб ты перастаў мяне дражніць".

***- Смяяцца***

Фрэд Франкель, псіхолаг і аўтар кнігі "Добрых сяброў цяжка знайсці", прапануе кожны раз, калі дражняць, адказваць, але самому не дражніць у адказ. Ён сцвярджае, што ў такіх сітуацыях важна, каб дзіця дало крыўдзіцелю зразумець, што кпіны яго не кранаюць (нават калі гэта не так). Да прыкладу, нехта сказаў: "Ты – дурань". Дзіця адказвае адной з фраз: "Ну і што?", "Ды што ты!", "І што далей?". Франкель падкрэслівае, што прынцыпова, як дзіця прамаўляе гэтую фразу. Яна павінна быць адрэпеціравана і вымаўлена з мінімальным эмацыйным напалам.

**Лёс дзіцяці, у тым ліку ўзаемаадносіны з аднагодкамі, фарміраванне здаровай самаацэнкі і ўпэўненасці ва ўласных магчымасцях, шмат у чым залежыць ад бацькоў, псіхалагічнага клімату ў сям'і і выхавання. Таму калі навучыць яго годна ставіцца да сябе і іншых, праяўляць свае найлепшыя якасці, то, верагодна, нават самы "тоўсты акулярык" з дрэннымі адзнакамі зможа стаць душой калектыву.**

*Кінга Красіцкая*




# На што часцей за ўсё хварэюць дзеці ў школе?

**Згодна статыстыцы праведзеных у школе за апошні час медаглядаў, спецыялісты выдзяляюць тройку найбольш распаўсюджаных сярод дзяцей і падлеткаў захворванняў. Пра якія праблемы са здароўем ідзе гаворка, і што рабіць бацькам, каб іх не дапусціць? У гэтым дапамагае разабрацца Вікторыя Толкіна – педыятр ДУАЗ "Гродзенская гарадская станцыя хуткай медыцынскай дапамогі".**

## СКРЫЎЛЕННЕ ПАЗВАНОЧНІКА

Часцей за ўсё гэта скаліёз. Заўважыць праблемы з паставай дзіцяці нескладана: яно пачынае горбіцца, візуальна адно плячо становіцца вышэй за другое.

***"На пачатку бацькам варта пагаварыць з класным кіраўніком,*** – заўважае педыятр. – ***Ён павінен рассаджваць вучняў за парты ў адпаведнасці з ростам і назіраць, каб дзіця сядзела за партай роўна. Клапаціцеся таксама пра гэта дома. Кантралюйце, як сын ці дачка трымаюць паставу за пісьмовым сталом пры выкананні хатніх заданняў, за кухонным сталом падчас спажывання ежы. Бацькі, забудзьцеся пра торбы на адно плячо для сваіх дзяцей! Як мінімум да старэйшых класаў. Груз павінен размяркоўвацца па плячах дзіцяці раўнамерна. Для гэтага найлепш падыходзіць заплечнік. Сачыце за тым, каб ён не быў цяжкім. Вядома, сучасныя падручнікі і дапаможнікі важаць нямала, таму ў сумцы не павінна быць нічога лішняга. І, вядома ж, фізкультура. Акрамя школьных урокаў варта прывучыць дзіця да ранішняй зарадкі, заахвоціць да заняткаў на турніку дома або запісаць на плаванне, танцы, баскетбол ці ў іншую спартыўную секцыю, асабліва калі ўрачом ужо пастаўлены дыягназ «скаліёз»".***

## ПАГАРШЭННЕ ЗРОКУ

Найбольш распаўсюджана блізарукасць. Яшчэ адна традыцыйная "школьная" хвароба. Дзіця скардзіцца, што дрэнна бачыць літары на дошцы.

***"З мэтай прафілактыкі карысна штодня рабіць практыкаванні для вачэй, асабліва падчас знаходжання за камп'ютарам,*** – падкрэслівае Вікторыя Толкіна. – ***Прафілактычныя меры таксама ўключаюць добрае асвятленне ў класе і дома за працоўным сталом. Бацькам варта сачыць і за тым, як дзіця чытае. Адлегласць ад вачэй да носьбіта павінна складаць 25–35 см. Гэта дазволіць паменшыць напружанне вачэй. Пры любых адхіленнях у вастрыні зроку гаджэты – пад забаронай. Не забывайце дадаваць у рацыён дзіцяці прадукты з высокім утрыманнем вітаміну А, які спрыяльна ўплывае на зрокавыя функцыі. Яго шмат у чарніцах, моркве, пятрушцы, шпінаце, пячонцы, рыбіным тлушчы".***

## ЗАХВОРВАННІ СТРАЎНІКАВА-КІШЭЧНАГА ТРАКТУ

Праблемы са страваваннем у дзяцей – не рэдкасць. Чым малодшы чалавек, тым больш уразлівы яго страўнікава-кішэчны тракт. Прычыны гэтаму – несбалансаванае харчаванне і няправільны рэжым прыняцця ежы.

***"Дома ўсё на сумленні бацькоў: што даюць, тое дзіця і есць. У школе іншая сітуацыя,*** – тлумачыць педыятр. – ***Вы не бачыце, ці ўсё з'ела дзіця, што яно купляе на дадзеныя яму сродкі. Калі няма ўпэўненасці, што сын ці дачка не набудуць на іх сухарыкі, чыпсы і іншыя шкодныя прадукты, не давайце грошы ўвогуле, лепш зрабіце з сабой бутэрброд. На сняданак і вячэру абавязкова забяспечвайце школьніка паўнавартаснымі гарачымі стравамі".***

### Некалькі парад для бацькоў, якія дапамогуць узмацніць імунную сістэму дзяцей у сезон прастуд – час перамены надвор'я.

- **Захоўвайце правільны рэжым дня**

*Пажадана арганізоўваць дзень дзіцяці так, каб у ім заставалася месца для дзённага сну і прагулкі. Ствараючы падобны расклад, вы дапамагаеце размеркаваць нагрузку на малады арганізм раўнамерна, што зберажэ яго ад стрэсаў, а, як вядома, стрэс – першы вораг імунітэту.*

- **Харчуйцеся смачна і карысна**

*Меню павінна быць разнастайным, прадукты – багатымі на вітаміны і мікраэлементы. Сінтэтычныя вітаміны варта ўжываць толькі ў тых выпадках, калі не можаце забяспечыць дзіцяці паўнавартаснае харчаванне. І памятайце, школьніку патрэбны прадукты, якія змяшчаюць як мага менш тлушчоў, але як мага больш калорый.*

- **Займайцеся фізічнымі практыкаваннямі і загартоўвайцеся**

*Нагрузка неабходна арганізму для нармальнага функцыянавання ўсіх органаў і сістэм. У справе загартоўвання галоўнае правіла – уводзіць такую практыку пступова.*

- **Апранайцеся згодна з надвор'ем**

*Вельмі важна не хутаць дзіця, улічваючы яго рухомасць. Ад пары світэраў яно можа спацець, распрануцца, выбегчы на вуліцу – і ў момант прастудзіцца. Заўсёды сачыце за тым, што дзіця апранае і наколькі яму будзе зручна рухацца ў пэўным адзенні.*

- **Падтрымлівайце ў доме спрыяльны клімат**

*Для гэтага існуе ўсяго 3 умовы: адсутнасць пылу і яе назапашвальнікаў, тэмпература ў памяшканні – не вышэй за 18–20 °C, вільготнасць – не менш за 50%. Такія кліматычныя ўмовы не даюць распаўсюджвацца бактэрыям.*

**Гэтыя няхітрыя правілы дазволяць абараніць арганізм ад штогадовых эпідэмій грыпу, наступстваў скразнякоў і іншых непрыемнасцей, што могуць застаць знянацку школьнікаў падчас вучобы. Будзьце здаровыя!**

*Ангеліна Пакачайла*

## У гродзенскай семінарыі распачаўся чарговы навучальны год

*Ужо ў 28-ы раз установа прыняла маладых людзей, якія праз чалавечую, інтэлектуальную, духоўную і пастырскую фармацыю хочуць аддаца выключнаму служэнню Богу і Касцёлу.*



Новы навучальны год у Вышэйшай духоўнай семінарыі распачаўся св. Імшой, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Падчас яе трое навучэнцаў 3-га курса атрымалі духоўны строй – сутану, а дваім навучэнцам 5-га курса была ўдзелена паслуга акалітату.

Падчас гаміліі кс. Здзіслаў Вэдэр SDB, які апошнія 2 гады быў духоўным айцом семінарыстаў, а зараз заканчвае служэнне ў Гродзенскай ВДС, назваў навучальную ўстанову "школай апосталаў Хрыста", у якой кожны павінен яшчэ больш палюбіць Езуса і захапіцца Яго навукай. "Няхай прыярытэтам вашага жыцця заўсёды будзе Збаўца. Пастаўце Яго ў цэнтр свайго жыцця", – сказаў святар, звяртаючыся да алюмнаў.

У сваю чаргу біскуп Аляксандр Кашкевіч пажадаў семінарыстам, каб новы навучальны год быў багаты, найперш, на духоўны плён, а час навукі – добра выкарыстаны для ўзрастання ў веры і ўсталявання сапраўдных адносін з Езусам Хрыстом.

## Парафіяльная бібліятэка з'явілася ў Навагрудку

*Яе ўрачыстае асвячэнне, а таксама памяшканняў канцылярыі і сямейнай кансультацыі, дзе вернікі змогуць звярнуцца да хрысціянскага псіхолага, здзейсніў біскуп Гродзенкі Аляксандр Кашкевіч.*



Галоўная мэта заснавання парафіяльнай бібліятэкі пры касцёле св. Міхала Арханёла – заахвоціць вернікаў да паглыблення асноў каталіцкай веры праз чытанне. Базісны фонд рэлігійнай літаратуры быў сфарміраваны дзякуючы бібліятэцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, Катэхетычнаму каледжу імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах, а таксама прыватным асобам.

## Турнір па міні-футболе памяці св. Яна Паўла ІІ прайшоў у Слоніме

*Сёлета спаборніцтва сабрала 18 каманд з усіх дыяцэзій Беларусі.*



На пачатак турніру ў мясцовай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася св. Імша, якую ўзначаліў кс. дэкан Ігар Анісімаў. Гамілію да сабраных прамовіў кс. Антоній Абухоўскі, пробашч парафіі ў Сапоцкіне. Святар нагадаў, што св. Ян Павел ІІ сам займаўся спортам, у маладосці гуляў у футбол і заўсёды вёў спартыўны лад жыцця, а таксама дадаў: "У спорце выяўляюцца не толькі багатыя фізічныя магчымасці чалавека, але і яго інтэлектуальныя і духоўныя здольнасці. За фізічнай моцай і здольнасцю мускулаў стаіць душа, і таму спорт павінен у паўнаце праяўляць сваё аблічча".

Затым арганізатар турніру кс. Артур Малафей прачытаў ліст біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, адрасаваны ўдзельнікам. Пасля каманды накіраваліся на футбольнае поле, дзе змагаліся за перамогу.

Упрыгожаннем турніру стала фінальная гульня, падчас якой каманда з парафіі св. Роха ў Грандзічах з лікам 1:0 перамагла футбалістаў з каманды Гродна-Паўднёвы. На заканчэнне адбылася цырымонія ўзнагароджання, дзе, акрамя кубкаў і медалёў, а таксама асноўных намінацый, былі ўручаны прызы лепшым гульцам у кожнай з каманд-удзельніц.

## Біскуп Юзаф Станеўскі наведаў парафіі ў Бердаўцы і Першамайскім

*Іерарх сустрэўся з мясцовымі вернікамі ў межах кананічнай візітацыі Лідскага дэканата.*



Звяртаючыся да прысутных са словам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы, біскуп адзначыў, што кожнага чалавека Бог адарыў адметным пакліканнем і надзяліў спецыяльнай місіяй. І дадаў, што кожны чалавек пакліканы да святасці.

У парафіі св. Казіміра ў Першамайскім іерарх прасіў вернікаў дзяліцца верай, якую яны вызнаюць. Таксама заклікаў прысутных быць не толькі каталікамі ў касцёле, але і сапраўднымі хрысціянамі ў свеце.

На заканчэнне візітацыі вернікі выказалі біскупу ўдзячнасць за дар супольнай малітвы і ўмацаванне пастырскім блаславеннем.

## Зрабіць фацімскае пасланне жыццёвай праграмай

*Фігура Маці Божай Фацімскай, якая здзяйсняе перэгрынацыю па Гродзенскай дыяцэзіі, наведала парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне.*



Урачыстую св. Імшу ўзначаліў пробашч парафіі кс. Антоній Абухоўскі. З гаміліяй да сабраных вернікаў звярнуўся кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі. У прамове святар падкрэсліў, што Марыя, аб'яўляючыся ў Фаціме, нагадала, што д'ябал сапраўды быў пераможаны Хрыстом, але, на жаль, усё яшчэ мае моц і шкодзіць людзям.

Пасля літургіі адбылася працэсія з фігурай Маці Божай вакол святыні. Вернікі, ідучы з запаленымі свечкамі ў руках, выразілі сваё жаданне заўсёды рухацца ў кірунку святла, якое асабліва зыходзіць з Фацімы і ўказвае канкрэтны шлях да Бога – праз навяртанне, пакаянне і малітву.

## АНОНСЫ

### СУСТРЭЧА З БРАТАМІ З СУПОЛЬНАСЦІ ТЭЗЭ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Браты Бенуа і Жан-Даніэль, якія адказваюць за кантакты з моладдзю з Беларусі і Украіны, наведаюць горад над Нёманам 5 кастрычніка.**

У межах візіту ў пабрыгіцкім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі адбудзецца сустрэча з членамі Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN".

**Праграма сустрэчы:**
- 19.15 – св. Імша;
- малітва ў духу Тэзэ;
- сустрэча і размова з братамі Бенуа і Жанам-Даніэлем.

*Падчас наведвання Гродна манахі маюць намер запрасіць маладых людзей прыняць удзел у Еўрапейскай сустрэчы моладзі, якая адбудзецца ў канцы бягучага года ў швейцарскім Базэлі.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Да ўдзелу ў духоўных практыкаваннях запрашаюцца ўсе неабыякавыя да праблемы алкагалізму і наркаманіі ў нашай краіне.**

Усебеларускія рэкалекцыі цвярозасці адбудуцца 13–15 кастрычніка ў доме айцоў вербістаў па адрасе: вул. Шаўчэнкі, 6.
Арганізатар – Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

### ТЭАТР ІМЯ СВ. ЯНА ПАЎЛА ІІ АДЗНАЧЫЦЬ 10-ГОДДЗЕ СВАЙГО ІСНАВАННЯ

**Урачыстасці з нагоды юбілею адбудуцца 21 кастрычніка ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка).**

*У межах святкавання будзе адпраўлена св. Імша (у 17.00), пасля якой пройдзе тэатральная вечарына.*

### "КАРЫТАС-ГРОДНА" ЗАПРАШАЕ НОВЫХ ВАЛАНЦЁРАЎ!

**"Калі маеш хвіліну вольнага часу і вялікае жаданне чыніць дабро, калі хочаш рэалізаваць сваю веру, дапамагаючы бліжняму ў патрэбе, прыходзь да нас і ўключыся ў вялікую справу нясення дапамогі чалавеку", – заклікаюць супрацоўнікі Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі.**

*Больш інфармацыі пра далучэнне да валантарыяту можна атрымаць па тэлефоне: (8 0152) 75-34-12 – Наталля, каардынатар валанцёраў.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**1 кастрычніка 1984 г.** – кс. Казімір Валентыновіч, *проб. Мсцібава.*
**3 кастрычніка 1968 г.** – кс. Адольф Сакалоўскі, *проб. Міхалішкі;*
**6 кастрычніка 1996 г.** – кс. Станіслаў Роек SchP, *проб. Ліда;*
**6 кастрычніка 2002 г.** – кс. Антоній Саміла, *проб. Гожа, Путрышкі, Прывалка;*
**7 кастрычніка 1960 г.** – бр. Панталіён Жэброўскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г.** – кс. Уладзіслаў Красоўскі, *проб. Галынка;*
**13 кастрычніка 1992 г.** – кс. Валянцін Кублік SJ, *душп. Індура.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

## Каляндар падзей

***1 кастрычніка***
*Распачацце кастрычніцкага набажэнства. Заахвочваем да ружанцовай малітвы ў касцёлах, капліцах і ў сем'ях. Дзень малітвы за выкладчыкаў, настаўнікаў, выхавацеляў і катэхетаў у Беларусі.*

***4 кастрычніка***
*Успамін св. Францішка з Асізі. Дзень імянін Святога Айца Францішка.*

***5 кастрычніка***
*Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.*

***13 кастрычніка***
*Заканчэнне Юбілею 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 3 кастрычніка.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***

*Аб росквіце ружанцовай малітвы і супольнасцей Жывога Ружанца ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*




Кожнае “Вітай, Марыя”, прамоўленае на ружанцы, злучае нас з Маці Божай усё мацней і мацней. Хто моліцца Ружанец, таго Марыя надзейна трымае за руку. Так адбылося і з мужчынам з гісторыі Бруна Ферэра пад назвай “Салдат Пётр”.

## Чаму трэба маліцца на ружанцы?





**Жыў некалі на свеце грубы і мужны мужчына па імені Пётр, які быў салдатам. Яго жыццё ў розных частках свету нагадвала небяспечную прыгоду, але з-за сваёй адвагі мужчына праславіўся ў самых вядомых бітвах.**

**І вось аднойчы падчас шалёнай атакі салдат быў смяротна паранены. У той жа дзень ён падняўся да варот Раю і энергічна пастукаў. Св. Пётр паспяшаўся адчыніць брамы.**

**– Малады чалавек, чаго Ты хочаш? – спытаў св. Пётр, паглядзеўшы зверху ўніз на чырвона-сіні мундзір салдата.**

**– Хачу трапіць у Рай, – адказаў той. – Я салдат Пётр. Паглядзі, як шмат медалёў мне прысуджана! Я шмат змагаўся. Мяне нават забілі за сваю краіну. Думаю, я заслужыў Рай.**

**– Бачу-бачу… – паўтарыў пра сябе св. Пётр. – Ты змагаўся добра, так-так... Але гэтага недастаткова. Пачакай.**

**Св. Пётр дастаў з паліцы тоўстую кнігу і пачаў павольна чытаць. У ёй было занатавана ўсё, што салдат зрабіў на працягу свайго жыцця. Св. Пётр гартаў старонкі, ківаў галавой, цярэбячы доўгую белую бараду, і мармытаў: “Ну... гм”. Змест кнігі не быў здавальняючым. Паводле таго, што было напісана, і ў адпаведнасці з законамі, якія рэгулююць доступ у Рай, св. Пётр не мог яго ўпусціць. Аднак святы адчуваў вялікую сімпатыю да свайго цёзкі. “Я не магу пасланць у пекла таго, каго завуць Пятром!”– падумаў.**

**Але што ён мог зрабіць? Вырашыў паклікаць св. Міхала Арханёла, які насіў меч і даспехі. Св. Пётр разлічваў, што св. Міхал акажа разуменне да свайго “калегі”. Яны доўга размаўлялі. Св. Пётр спрабаваў знайсці якую-небудзь падставу, каб дазволіць салдату ўвайсці ў Рай.**

**– Але не, немагчыма! – пракрычаў св. Міхал. – Ты не можаш парушаць правілы. Гэты салдат абсалютна не годны, каб пайсці туды. Ты павінен выдаліць яго адсюль!**

**Тады св. Пётр склікаў сход усіх святых. Быў там св. Юзаф, св. Тэрэза, св. Францішак, св. Кацярына. Але ўсё роўна вырашыць нічога не ўдалося. І яны ківалі галовамі і казалі, што салдат Пётр зрабіў не так шмат дабра, каб увайсці ў Рай. Не вагаючыся, св. Пётр падышоў да Езуса і пачаў расказваць Яму пра ўсё, што тычылася салдата. Святы доўга распавядаў Хрысту пра яго мужнасць, велікадушнасць, што ён памёр за сваю краіну. Езус уважліва слухаў.**

**Але раптам падняўся неверагодны шум. Шмат сярдзітых д’яблаў забегалі па лесвіцы, якая вядзе ў Рай.**

**– Стоп! Стоп! – крычалі чэрці, размахваючыся завостранымі віламі. – Гэты салдат належыць нам!**

**Усё стала рашуча атрымліваць дрэнны паварот для беднага Пятра. Чырвоны д’ябал укалоў яго віламі, смеючыся насмешліва:**

**– Вось той, хто заўсёды казаў: свінскі д’ябал.**

**Менавіта тады побач з Езусам з’явілася прыгожая жанчына. Гэта была Марыя. У руцэ Яна трымала вялікую залатую кнігу, якую перадала свайму Сыну. У ёй былі сотні старонак, і ўсе яны былі спісаныя. Хрыстос узяўся праглядваць кнігу, затым пачаў яе ўважліва чытаць.**

**Урэшце рэшт Ён павярнуўся да Марыі і прыгожа пакланіўся. Гэта быў сігнал: салдат Пётр можа ўвайсці ў Рай. Найсвяцейшая Маці сама ўзяла яго за руку і павяла туды. Св. Пётр усміхаўся задаволены. Значна менш былі задаволены, вядома, чэрці. Яны пайшлі ў пекла з лютасцю, пратэстуючы:**

**– Марыя – гэта пагібель! Яна крадзе душы, якія належаць нам! Калі гэтак будзе працягвацца, хутка застанёмся беспрацоўнымі.**

**А св. Пётр проста не мог вытрымаць з цікаўнасці. Што ж было занатавана ў вялікай залатой кнізе, якую Маці Божая дала пачытаць Езусу? Калі ўсе віталі навічка ў Раі, св. Пётр моўчкі падышоў да залатой кнігі і адкрыў яе. На кожнай старонцы была запісана незлічоная колькасць “Вітай, Марыя”. Кожны раз, калі салдат адмаўляў гэтую малітву, Багародзіца занатоўвала яе ў вялікай кнізе. Менавіта гэтыя “Вітай, Марыя” і адчынілі салдату Пятру вароты Раю.**

Праз Ружанец зыходзіць сапраўдная моц і падтрымка ў жыцці хрысціяніна. Варта памятаць у малітвах пра Найсвяцейшую Маці, якая ніколі не забываецца пра сваіх дзяцей.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**зрабі разам з бацькамі прыгожы ружанец і змясці яго каля фігуркі Марыі.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем мноства найлепшых пажаданняў: радасці, здароўя, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Асаблівым чынам прагнем падзякаваць за паслугу і клопат аб Апостальстве вечнай малітвы за святароў “Маргарытка”. Няхай кожны дзень ахвярнай працы будзе асвечаны святлом Святога Духа, міласэрны Бог заўсёды аберагае Вас, а Найсвяцейшая Панна праз нашыя малітвы ўзнагароджвае і адорвае сваім заступніцтвам і любоўю.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка”*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, шмат радасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас прыязнасцю і зычлівасцю, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй любові і нястомна Вамі апекуецца. 100 гадоў! Аддзяч, Божа!

*З малітвай і павагай, парафіяне з Каменкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды 14-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырскай паслугі, апекі Маці Божай. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды 61-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем шчырыя віншаванні. Жадаем шмат сіл, нязгаснага запалу ў служэбе Богу і людзям, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, апекі Найсвяцейшай Маці і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здзяйснення ўсіх мар. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, святы Заступнік дапамагае рэалізоўваць планы і намеры, а Маці Божая вядзе найпрыгажэйшымі сцежкамі сярод добрых людзей. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас за зычлівасць, шчырую малітву, клопат аб святыні, нас і нашым духоўным развіцці. Дзякуем за вялікую любоў да Бога, якой дзеліцеся падчас св. Імшы. Жадаем поспехаў ва ўсіх справах на карысць людзей і для хвалы Пана.

*З малітвай і павагай, парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорыць Вас усімі сваімі ласкамі і бласлаўленнем, дадасць упэўненасці, умацуе сілы і напоўніць супакоем. Найсвяцейшая Маці няхай ахіне плашчом сваёй апекі і любові, а Анёл-ахоўнік нястомна чувае над Вамі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды 14-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, аптымізму, задавальнення ад святарскай паслугі на новым месцы працы. Нізкі паклон за душпастырскую службу ў мясцовай парафіі. Для нас Вы былі не толькі пробашчам, але і духоўным кіраўніком. Шчасці Божа на доўгія гады!

*З малітвай, былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пацыну**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай, надзеі, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём святла і моцай нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна злучаць Вас з Богам, каб ніколі не аддаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва хай будзе для Вас падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Клерыку Уладзіславу Малышку**

з нагоды аблучын перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог заўсёды будзе на першым месцы ў Тваім жыцці, Святы Дух нястомна ўказвае добрую дарогу, а Хрыстос заўсёды будзе самым блізкім Сябрам. Жадаем стойкасці і душэўнага супакою, каб Ты мог быць сапраўднай прыладай у руках Бога.

*З дарам малітвы, моладзь з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог дапамагае Вам заўсёды і адорвае сваімі ласкамі. Жадаем няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых і зычлівых людзей побач. Дзякуем за Вашу спагадлівасць, добрае сэрца, прыемную ўсмешку і клопат, якім нас атачаеце.

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Айцу Аляксандру Махначу**

з нагоды Імянін жадаем неабходных дароў Святога Духа, усіх ласкаў ад Усемагутнага, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, добрага здароўя, сіл, радасці і зычлівых людзей побач. Жадаем таксама бласлаўлення ад Хрыста, які ўдзяляе моц. Няхай Ваша шчырая малітва і павучальныя казанні надалей пранікаюць у людскія сэрцы.

*Вернікі з парафіі МБ Унебаўзятай, Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, усіх Божых ласкаў на кожны дзень, радасці, нястомных сіл для служэння Пану, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і сталай апекі святога Заступніка. Шчасці Божа!

*Малітоўная група МБ Міласэрнасці, Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды прызначэння Канонікам ад усяго сэрца жадаю мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай працы, нязломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве, Андрэй*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4800; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная